**ШТРАФ 2 000 000 РУБЛЁЎ ДЛЯ АНЖАЛІКІ КАМБАЛАВАЙ**



ЗА ПІКЕТ У ПАМЯЦЬ ГЕНЕРАЛА ЮРЫЯ ЗАХАРАНКІ

СТАР. 2

# Веснік ПРАВААБАРОНЧЫ

№ 5 (13) 05.2013

**ПОМНІКІ Ў ГОНАР ПАЎСТАНЦАЎ 1863ГОДА**

АДРАМАНТАВАНЫ І ПРЫБРАНА ТЭРЫТОРЫЯ




СТАР. 3

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ


## ПРАВААБАРОНЦЫ НАГАДВАЮЦЬ МЗС ПРА ЗАДАЧЫ АДНОСНА ВЫКАНАННЯ ДЗЯРЖОРГАНАМІ МІЖНАРОДНЫХ ДАМОВАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Намеснік старшыні ПЦ "Вясна" Валянцін Стэфановіч 17.05.2013 накіраваў міністру замежных спраў Беларусі Уладзіміру Макею зварот у сувязі з невыкананнем беларускай дзяржавай рашэння Працоўнай групы па адвольных затрыманнях ААН у справе Алеся Бяляцкага.

Разам са зваротам міністру дасланы адкрыты ліст Абсерваторыі па абароне праваабаронцаў з патрабаваннем выканання дадзенага рашэння.

У рашэнні, прынятым 31 жніўня 2012 года, Працоўная група прызнала, што пазбаўленне волі кіраўніка ПЦ "Вясна" і віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека Алеся Бяляцкага з'яўляецца адвольным, і падкрэсліла, што "адэкватнымі сродкамі прававой абароны з'яўляецца вызваленне сп. Бяляцкага і наданне яму законнага права на кампенсацыю ў адпаведнасці з артыкулам 9, пунктам 5 Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах (МПГПП)".

Аднак беларускі бок адмаўляецца выконваць гэтае рашэнне ўплывовай міжнароднай арганізацыі, заявіўшы замест гэтага, што не бачыць сэнсу ў супрацоўніцтве з Працоўнай групай і абвінаваціўшы яе ў палітычнай заангажаванасці. "Беларусь заўсёды канструктыўна ставілася да ўзаемадзеяння з тэматычнымі працэдурамі Савета [Савета па правах чалавека ААН], прадстаўляла на яго адрас усю запрошваемую інфармацыю. Аднак у такіх умовах з улікам крайняй палітычнай ангажаванасці Працоўнай групы, адсутнасці прафесійнай этыкі ў яе дзейнасці Беларусь не бачыць сэнсу для далейшага ўзаемадзеяння з Працоўнай групай у яе цяперашнім складзе", - заявіла ў сваім выступе афіцыйная дэлегацыя Рэспублікі Беларусь падчас 22-й сесіі Савета па правах чалавека ААН, якая праходзіла сёлета ў сакавіку.

Патрабаванне Працоўнай групы аб выпраўленні становішча сп. Бяляцкага і прывядзенні яго ў адпаведнасць з нормамі і прынцыпамі, выкладзенымі ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і МПГПП беларуская дэлегацыя назвала "умяшальніцтвам ва ўнутраныя справы дзяржавы": "Разглядаем заключэнне Працоўнай групы па справе Бяляцкага як спробу апраўдаць злачынцу шляхам прылічэння яго да праваабаронцаў, умяшальніцтва ва ўнутраныя справы суверэннай дзяржавы".



Намеснік старшыні ПЦ "Вясна" Валянцін Стэфановіч

Прымаючы да ўвагі гэтыя заявы, Стэфановіч, услед за Абсерваторыяй па абароне праваабаронцаў, у сваім звароце да міністра замежных спраў нагадвае, што спецыяльныя працэдуры ААН (у тым ліку Працоўная група па адвольных затрыманнях) з'яўляюцца дапаможнымі органамі ААН. Яны былі створаны Саветам па правах чалавека ААН і падсправаздачныя яму. Сябры ПГАЗ абіраюцца Кансультатыўнай групай, якая прызначаецца Саветам па правах чалавека ААН, на падставе ведаў і досведу ў галіне іх мандата, добрасумленнасці, незалежнасці і бесстароннасці. Іх юрыдычныя заключэнні, такія як вышэйзгаданае рашэнне па справе Алеся Бяляцкага, з'яўляюцца рашэннямі ААН. Рэспубліка Беларусь як дзяржава-сябар ААН мае абавязак супрацоўнічаць з усімі органамі і механізмамі ААН (як гэта прадугледжана артыкулам 56 Статута ААН), а таксама звязана дамовамі, у прыватнасці МПГПП, які Беларусь ратыфікавала ў 1973 г.

Акрамя таго, праваабаронца, спасылаючыся на ч. 5.11. Палажэння аб Міністэрстве замежных спраў, зацверджанага пастановай Савета Міністраў Рэспублікі ад 31.07.2006 № 978, падкрэслівае, што ў задачы міністэрства ўваходзіць і "кантроль за выкананнем міжнародных дамоваў Рэспублікі Беларусь дзяржаўнымі органамі Рэспублікі Беларусь і аказанне садзейнічання ў выкананні міжнародных дамоваў Рэспублікі Беларусь".

У сувязі з гэтым Валянцін Стэфановіч просіць міністра замежных спраў забяспечыць кантроль за выкананнем рашэння Працоўнай групы па адвольных затрыманнях ААН па справе Алеся Бяляцкага, прыняць захады па садзейнічанні выкананню дзяржаўнымі органамі Рэспублікі Беларусь дадзенага рашэння і паведаміць пра прынятыя захады ў парадку, прадугледжаным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

spring96.org

### Чаму неэфектыўна выкарыстоўваюцца сродкі падаткаплацельшчыкаў?



Актывістка грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду" Анжэла Камбалава атрымала ліст з Баранавіцкага гарвыканкама на сваю заяву аб жахлівым становішчы цэнтральных вуліц Царука і Гагарына і тэрмінах іх рамонта.

У адказе намесніка старшыні гарвыканкама В. Лазіцкага паведамляецца, што ў 2013 годзе ў гарадскім бюджэце прадугледжана 11993, 7 млн. рублёў на бягучы рамонт і ўтрыманне вулічнай дарожнай сеткі, а таксама 13976,8 млн. рублёў на капітальны рамонт і рэканструкцыю вуліц горада, у тым ліку часткі вуліцы Царука.

Мы ведаем, што кожны год з гарадскога бюджэта выдзяляюцца вялікія грошы на рамонт гарадскіх вуліц, але іх стан з кождым днём усё пагаршаецца і пагаршаецца. Арт. 34 нашай Канстытуцыі гарантуе нам права на атрыманне і распаўсюд інфармацыі аб дзейнасці дзяржаўных органаў. Таму мы будзем пісаць новыя заявы і збіраць подпісы людзей, каб ведаць не столькі колькасныя паказчыкі гарадскога бюджэту, а найперш прычыны неэфектыўнага выкарыстоўвання сродкаў падаткаплацельшчыкаў, – паведаміла Анжэла Камбалава

Глеб Лушынскі

## Рыгора Грыка ў гарвыканкаме папярэдзілі аб неабходнасці спынення грамадскай дзейнасці



Грамадскга актывіста Рыгора Грыка начальніца ідэалагічнага аддзела Баранавіцкага гарвыканкама Таццяна Жытко запрасіла для размовы, праўда, не назваўшы канкрэтнай прычыны запрашэння.

– Я ведаў, што гаворка будзе вясціся вакол маёй грамадскай дзейнасці, збору подпісаў, распаўсюду газет і ўлётак, таму я вырашыў пайсці, каб давесці ім сваю пазіцыю па шматлікіх пытаннях грамадска-палітычнага жыцця нашага горада – паведаміў Рыгор Грык.

Размова адбылася 16 траўня ў кабінеце № 201 гарвыканкама і цягнулася амаль гадзіну. Разам з Таццянай Жытко ў кабінеце прысутнічалі яшчэ двое супрацоўнікаў ідэалагічнага аддзела, якія прымалі актыўны ўдзел у "прафілактычна-выхаваўчай" размове.

Мяне выклікалі, каб я спыніў грамадска-палітычную дзейнасць і, як сказала Таццяна Жытко, каб "не баламуціў" народ. Я не хаваў, што ў вольны ад працы час распаўсюджваю газеты "Новы час", "Рабочая салідарнасць", арт.34 Канстытуцыі гарантуе права на атрыманне, захоўванне і распаўсюд інфармацыі. Але усё гэта я раблю па закону і не парушаю грамадскага парадку, – адзначыў Рыгор Грык.

Сяргей Законнікаў

# АНЖАЛІКУ КАМБАЛАВУ ЗАТРЫМАЛІ ЗА ПІКЕТ У ПАМЯЦЬ ЗАХАРАНКІ І АШТРАФАВАЛІ НА 2 МЛН. РУБЛЁЎ

У Баранавічах 7 мая затрымалі актывістку АГП Анжаліку Камбалаву, якая арганізавала пікет, каб нагадаць жыхарам горада пра бясследна зніклага 14 гадоў таму эксміністра ўнутраных спраў Беларусі Юрыя Захаранку.

Пікет пачаўся а 18 гадзіне ля цэнтральнага гандлёвага дома "Вясёлка"(вуліца Савецкая,65) і прыцягнуў увагу мінакоў. Адныя проста звярталі ўвагу на партрэт Юрыя Захаранкі, а іншыя цікавіліся яго лёсам.

У 18.35 падыйшлі міліцыянты і перапісалі пашпартныя дадзеныя, пагаварылі разам пра асобу Юрыя Захаранкі і правы чалавека, а затым адпусцілі актывістку дамоў. Але праз 5 хвілін дагналі і павезлі ў гарадскі аддзел унутраных спраў.



Вечар, ўсю ноч, раніцу да самага суда актывістка правяла ў камеры ізалятара часовага ўтрымання без вады і ежы.

Судовае пасяджэнне вяла суддзя Кацярына Груда. Яна прызнала актывістку вінаватай у парушэнні ч.2 арт.23.34 КаАП і прысудзіла ей адміністрацыйны штраф у памеры 20 базавых адзінак (2 млн. руб.). Анжаліка Камбалава прызнала, што арганізавала і ўдзельнічала ў пікеце ля гандлёвага цэнтра "Вясёлка", але не прызнала сябе вінаватай.

Пасля суда міліцыянер, які прысутнічаў на судзе, вярнуў актывістцы партрэт Юрыя Захаранкі.

Сяргей Востраўскі

## У БАРАНАВІЧАХ У ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ ЎШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ АХВЯР СТАЛІНСКІХ РЭПРЭСІЙ



У Баранавічах прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці 9 мая адзначылі дзень Перамогі ўшанаваннем памяці загінуўшых як у гады вайны, так і часы сталінскіх рэпрэсій. Спачатку грамадскія актывісты ўсклалі кветкі ля Вечнага агню ў цэнтры горада, а затым ля крыжа ахвяраў сталінскіх рэпрэсій 1939-1953 гг. (скрыжаванне вуліц Пірагова і Смаленскай). Раней тут была турма "Крывое кола", у якой былі знішчаны тысячы нявінных людзей. Таму тут у 1992 годзе і быў ўсталяваны металічны Крыж – як знак памяці ахвяр бальшавіцкіх рэпрэсій у гісторыі Беларусі.

– Сквер, дзе ўсталяваны Крыж сталінскіх ахвяр, улюбёнае месца адпачынку людзей, асабліва дзяцей, якія жывуць у гэтым рэгіёне. Сёння вельмі цёплае надвор'е і наўкол прыгожа ад вясновых кветак, таму тут заўсёды шмат людзей і, адпаведна, смецця. Вось чаму мы ўзялі на сябе абавязак даглядаць памятную гістарычную мясціну ў гэтым скверы, а тэрыторыю парка прыбіраць ад смецця, – адзначыў грамадскі актывіст Віктар Сырыца.

Рыгор Хахлоў

# ЛЯ МІЛАВІДАЎ ПРЫБРАЛІ ТЭРЫТОРЫЮ І АДРАМАНТАВАЛІ ПОМНІКІ Ў ГОНАР ПАЎСТАНЦАЎ 1863ГОДА

Ля Мілавідаў (Баранавіцкі раён) прыбралі тэрыторыю і адрамантавалі помнікі ў гонар паўстанцаў 1863г. Гэта стала вядома з ліста за подпісам в.а. старшыні Мілавідскага сельскага выканаўчага камітэта Тамары Былінскай, які атрымаў грамадскі актывіст Віктар Сырыца на калектыўны зварот грамадзян горада Баранавічы.

Раней мы ўжо паведамлялі, што грамадскія актывісты з Баранавічаў сабралі 148 подпісаў за тэрміновы рамонт помнікаў у гонар паўстанцаў 1863 года.



Так выглядаюць сёння пафарбаваная мемарыяльная каталіцкая капліца на месцы Мілавідскай бітвы касінераў Кастуся Каліноўскага і Аляксандра Лянкевіча з царскім войскам 22 мая (3 чэрвеня) 1863 года

У адказе Тамары Былінскай паведамляецца, што з надыходам цяпла спецыялісты Баранавіцкага завода санэлектранарыхтовак адрамантавалі дах і пафарбавалі мемарыяльную каталіцкую капліцу, а таксама чыгунны праваслаўны крыж і пастамент каменя-валуна, якія ўсталяваны на месцы Мілавідскай бітвы касінераў Кастуся Каліноўскага і Аляксандра Лянкевіча з царскім войскам 22 мая (3 чэрвеня) 1863 года.

– Мы прасілі Мілавідскі сельскі савет арганізаваць працу па рамонту помнікаў і добраўпарадкаванню тэрыторыі з нагоды 150-х угодкаў Мілавідскай бітвы 1863 года. Таму сёння мы выказваем шчырую падзяку кіраўніцтву Баранавіцкага раёна і Мілавідскага сельскага выканаўчага камітэта за выкананне сваіх абяцанняў і зробленую працу, – паведаміў Віктар Сырыца.

Глеб Лушынскі

# БАРАНАВІЦКІЯ АКТЫВІСТЫ ПАВІНШАВАЛІ ПАЛІТВЯЗНЯЎ СА СВЯТАМ ВЯЛІКАДНЯ

У першыя травеньскія дні баранавіцкія грамадскія актывісты павіншавалі палітвязняў са светлым святам Вялікадня, даслаўшы лісты і прыгожыя каляровыя паштоўкі. Актывісты спадзяюцца, каб у гэтыя святочныя дні беларускія палітвязні не будуць сябе адчуваць пакінутымі на волю лёсу.

– Мы стараемся віншаваць нашых палітвязняў з усімі святамі ці нават без нагоды дасылаць лісты падтрымкі. Усім нашым змагарам мы пажадалі здароўя і мужнасці ў нялёгкіх умовах зняволення, найхутчэйшай свабоды, хуткага вызвалення, – паведаміла старшыня гарадской суполкі АГП Анжаліка Камбалава.



## Жыхары Баранавічаў – за незалежныя тэлеканалы

Зварот, падпісаны 35 жыхарамі Баранавічаў, які ўтрымлівае патрабаванне вярнуць у телесетку тэлеканал "Еўраньюс", а таксама ўвесці беларускамоўны незалежны тэлеканал Белсат, даць магчымасць глядзець тэлеканалы суседзяў: Польшчы, Расіі і Украіны без цэнзуры, накіраваны ў Адміністрацыю прэзідэнта. Арганізатар звароту – мясцовы актывіст Рыгор Грык.

Гэта ўжо трэці зварот у розныя інстанцыі, але вынікаў да гэтага часу няма. Р.Грык выказвае спадзяванне, што Адміністрацыя прэзідэнта зробіць крокі для выканання арт. 33 і 34 Канстытуцыі РБ, згодна з якімі грамадзянам гарантуецца права атрымліваць праўдзівую і аб'ектыўную інфармацыю.

## ТБМ просіць дапамогі

Зварот сакратарыята ТБМ, прыняты на пасяджэнні 25 красавіка 2013 г.

Паважаныя сябры і прыхільнікі роднай беларускай мовы! Да Вас звяртаецца сакратарыят ТБМ з просьбаю аб дапамозе.

Паводле новага Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, з 1 красавіка гэтага года кошт арэнды за сядзібу ТБМ павысіўся на 60 % і дасягнуў 9 мільёнаў 801 тысяча 600 руб. у месяц. Акрамя таго, мы мусім аплачваць тэлефон, камунальныя і паштовыя паслугі.

Нягледзячы на шматлікія звароты грамадзян Беларусі ў Адміністрацыю і Кіраўніцтва спраў Прэзідэнта з просьбай пакінуць для ТБМ ільготны кошт арэнды, мы не атрымалі станоўчага адказу.

Вітусь Свабодскі

### Баранавіцкія чыноўнікі не збіраюцца ўводзіць плату за наведванне паліклінік

У Брэсце падведзены папярэднія вынікі кампаніі "За бясплатную медыцыну", мэта якой прадухіліць спробы мясцовых уладаў ігнаравання канстытуцыйнымі правамі грамадзян на ахову здароўя.

Кампанію ініцыявалі сябры Брэсцкай абласной арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) як адказ на заявы чыноўнікоў, што хацелі ўвесці плату за наведванне паліклінік. З такой прапановай выступіў старшыня Баранавіцкага гарвыканкама Віктар Дзічкоўскі. Як паведаміў лідэр брэсцкіх сацыял-дэмакратаў Ігар Маслоўскі, сам сп. Дзічкоўскі не адрэагаваў на зварот актывістаў кампаніі, але яго намеснік у сваім адказе паведміў, што рашэнне, якое б прыводзіла да зменаў у працы медыцынскіх установаў горада, гарвыканкамам не прымалася. "Але ж мы пыталі не пра рашэнне баранавіцкіх чыноўнікаў, а пра тое, на якой падставе яны рабілі высновы, што, калі ўвесці плату за наведванне паліклінік, там не будзе чэргаў", – распавёў Маслоўскі.

Кіраўнік абласной суполкі БСДП (Г) упэўнены, што менавіта праведзеная публічная кампанія, пад час якой збіраліся подпісы, распаўсюджвалася адпаведная інфармацыя і рабіліся запыты ў розныя ўстановы, сталася перашкодай на шляху намераў выканаўчай "вертыкалі" пашырыць камерцыялізацыю дзяржаўнай службы аховы здароўя насуперак прапісаным у Канстытуцыі нормам, якімі грамадзянам Беларусі гарантаванае бясплатнае медыцынскае абслугоўванне.

spring96.org

# БАРАНАВІЦКІ РАЙВЫКАНКАМ ДВОЙЧЫ ЗАБАРАНІЎ МІЛАВІДСКІ ФЭСТ, ПРЫСВЕЧАНЫ 150-М УГОДКАМ МІЛАВІДСКАЙ БІТВЫ

Баранавіцкі райвыканкам забараніў Мілавідскі фэст, запланаваны грамадскасцю горада і раёна на 2 чэрвеня 2013 года і прысвечаны 150-м угодкам Мілавідскай бітвы 1863 года. Гэта стала вядома з ліста за подпісам намесніка старшыні райвыканкама Анатоля Філанчука, які атрымалі арганізатары фэста Віктар Сырыца, Вячаслаў Болбат і Тэрэса Селівончык.




У адказе раённага чыноўніка гаворыцца: "…ў гэты дзень і ў гэтым месцы аддзел культуры Баранавіцкага райвыканкама запланаваў правядзенне мерапрыемства ў сувязі з 150-мі ўгодкамі Мілавідскай бітвы 1863 года, таму правядзенне другога мерапрыемства па гэтай тэматыцы не мэтазгодна".

Як адзначыў грамадскі актывіст Віктар Сырыца: "Арт. 51 Канстытуцыі Беларусі дае нам права на ўдзел у культурным жыцці. Мы амаль за 2 месяца падалі падрабязную заяву ў райвыканкам на правядзенне Мілавідскага фэсту, прысвечанага касінерам Кастуся Каліноўскага. Затым на працягу месяца заключылі дамовы з раённай міліцыяй, паліклінікай і жыллёва-камунальнай гаспадаркай па абслугоўванню масавага мерапрыемства менавіта 2 чэрвеня. Я і Вячаслаў Болбат сустракаліся асабіста са спадаром Філанчуком і загадчыкам ідэалагічнага аддзела райвыканкама Дзмітрыем Варвашэняй і запрасілі іх і аддзел культуры райвыканкама на Мілавідскі фэст 2 чэрвеня. Ніхто нам не гаварыў, што на 2 чэрвеня ўжо запланавана нейкае афіцыйнае мерапрыемства і ніхто, зразумела, нават і не прапаноўваў нам іншую дату".

– Паколькі фактычна няма інфармацыі аб запланаваным аддзелам культуры райвыканкама мерапрыемстве на 2 чэрвеня, то арганізатары Мілавідскага фэсту падалі новую заяву аб дазволе на перанос свайго мерапрыемства на 9 чэрвеня, – паведаміў грамадскі актывіст Віктар Сырыца.

Але 21 траўня арганізатары культурна-асветніцкага мерапрыемства Віктар Сырыца, Вячаслаў Болбат і Тэрэса Селівончык атрымалі чарговую забарону. Гэта стала вядома з ліста № 267 ад 20.05.2013г. за подпісам намесніка старшыні райвыканкама Анатоля Філанчука, у якім паведамляецца, што Баранавіцкі райвыканкам зноў забараняе Мілавідскі фэст, бо заяўнікі, на думку райвыканкама, парушылі п. 5 Закона РБ "Аб масавых мерапрыемствах". Але чыноўнік райвыканкама не патлумачыў, што канкрэтна яны парушылі.

Грамадскі актывіст Віктар Сырыца адзначае: "Мы як ніколі сур'ёзна падыйшлі да напісання заявы: указалі мэты, месца і час мерапрыемства, крыніцы фінансавання, лозунгі, напісалі падрабязную праграму фэста, вызначылі адказных асоб, прыклалі іх абавязацельствы, заключылі дамовы з раённай міліцыяй, паліклінікай і жыллёва-камунальнай гаспадаркай па абслугоўванню нашага мерапрыемства, не давалі ніякай папярэдняй інфармацыі ў СМІ і г.д. Лічу, што не мы парушылі закон, а райвыканкам не выконвае арт. 51 Канстытуцыі Беларусі і не дае нам права на ўдзел у культурным жыцці."

Вітусь Свабодскі

# АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ ПЕРААБРАНЫ ВІЦЭ-ПРЭЗІДЭНТАМ FIDH

Акцыя ўдзельнікаў 38-га Кангрэсу FIDH ў падтрымку палітвязняў Алеся Бяляцкага і Набіла Раджаба

27 траўня ў межах 38-га Кангрэсу Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) беларускі праваабаронца-палітвязень Алесь Бяляцкі, віцэ-прэзідэнт FIDH, пераабраны на сваёй пасадзе.

У 2007 годзе ён стаў першым віцэ-прэзідэнтам FIDH з Усходняй Еўропы, у 2010 годзе быў абраны на другі тэрмін.

Сёлета за кіраўніка ПЦ "Вясна", сяброўскай арганізацыі FIDH, свае галасы аддалі 76 з 90 удзельнікаў галасавання. Пра гэта паведаміў намеснік старшыні праваабарончага цэнтру Валянцін Стэфановіч, які гэтымі днямі браў удзел у працы Кангрэсу ў Стамбуле.

Кандыдатуру Алеся Бяляцкага напярэдадні галасавання прадстаўляла Прэзідэнт FIDH Суэр Белхасэн.

spring96.org

**"ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК"** Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь

**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы - звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў

ВЕСНІК ПРАВААБАРОНЧЫ